



# Рэгіянальная газета. Rh.by




Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

29 мая 2015 года №22 **(1048)**




**Хадзіла з падушкай і прыкідвалася цяжарнай**

старонка 4



**Нават самыя хворыя не павінны чуць боль**

старонка 20



**Футбалісты баяцца трэнера Гармазу і саромеюцца размоў пра першы пацалунак**

старонка 22

# Першы і апошні год у школе

## Чаму навучылася першакласніца і якія абяцанні не выканаў выпуснік



Фота Наталлі ТУР.



Фота Наталлі ТУР.

**Улад Воўк апошнія дні сядзіць за партай у 14 школе. У Юлі Канапелькі яшчэ 10 год наперадзе. Фота зробленае ў гімназіі № 6, у якой вучыцца дзяўчынка.**

МАЛАДЗЕЧНА

**Героі нашай мінулагодняй публікацыі да 1 верасня (глядзіце нумар газеты ад 29 жніўня 2014 года) Юля Канапелька і Уладзіслаў Воўк на гэтым тыдні заканчваюць вучобу ў першым і 11 класе.**

Мы зноў сустрэліся з Юляй і Уладам, каб спытацца, што змянілася ў іх жыцці за год. Ці збыліся чаканні і мары?

### Юля: за год вывучыла англійскую мову і вызначылася з прафесіяй

Юля перад першым верасня спадзявалася на тое, што настаўніца будзе добрай, марыла навучыцца складаць лічбы.

**– Юля, колькі будзе 2+2?**

– Чатыры! – адразу адказвае Юля. – Я навучылася лічыць да мільярда, а таксама магу гаварыць па-англійску і па-беларуску!

Самы любімы прадмет у Юлі той, на якім можна пісаць.

**– Што, і адзнакі вам ставяць?**

– Канешне, самая лепшая адзнака – гэта М.

**– А што гэта значыць?**

– Маладзец! Толькі ў мяне ў сшытку дзве такія адзнакі. А так ёсць "добра", "не пастаралася".

Год таму Юля казала, што калі пойдзе ў школу, абавязкова будзе хадзіць на танцы і на ўшу.

– А што такое ўшу? – пытаецца ў мяне Юля сёлета.

А на танцы дзяўчынка, насамрэч, ходзіць. Яна займаецца хіп-хопам.

– Бачыце, у нас у класе кніг няма? Мы іх ужо здалі. Таму што вучыцца засталося два дні. А потым лета. Буду гуляць, асабліва ў шашкі.

**– Юля, год таму ты хацела стаць прадавачкай кавуноў. Мара не змянілася?**

Юля з хвіліну глядзіць на мяне моўчкі, а потым кажа тонам, быццам гэта я першакласніца і нічога не разумею:

– Я буду выступаць у цырку! Буду клоўнам. Хаця не, буду тым, кім возьмуць. Працаваць я буду ў Мінску.

### Улад: паступіць і дакладна пачне вучыцца

Улад напярэдадні апошняга званка вельмі заняты.

**– Вучоба?** – пытаюся ў яго пры сустрэчы.

– Ды не! Рэпетыцыя апошняга званка. Мне сёння сказалі, што я вядучы.

**– А год таму вы казалі, што пачняце вучыцца з першага верасня?**

– Ну, я так сабе казаў апошнія гадоў пяць. Вось паступлю і дакладна пачну вучыцца!

**– Цяпер хоць вызначыліся з тым, куды паступаць будзеце?**

– Не, думаў спачатку ў БНТУ, як палова маіх аднакласнікаў, а цяпер думаю, што не хачу.

На пытанне, ці адчувае Улад, што хутка закончыцца вучоба ў школе, ён адказаў, што адчувае:

– Я раней мала кантактаваў з аднакласнікамі, а цяпер сам адчуваю, што мне цікава з імі гутарыць, праводзіць разам час. І хочацца нагаварыцца перад тым, як разыдземся ў розныя бакі.

Цяпер Улад заняты падрыхтоўкай да выпускнога. І з уборам ужо вызначыўся:

– Гэта будзе сіні пінжак у клетку, белая сарочка з чырвонай бабачкай і якія-небудзь кеды. Я не разумею тых, хто набыў на выпускны касцюм за 6 мільёнаў. А ёсць і такія.

**Наталля ТУР.**

● УЛАДА

# Ад інвестпраектаў на Нарачы да зносу суседскіх пабудоў

МЯДЗЕЛ

**Прыём грамадзян у старшыні Мінаблвыканкама адбыўся ў Мядзеле 20 мая.**

За тры гадзіны **Сямён Шапіра** разгледзеў больш за дзесяць пытанняў. Сярод іх – жыллёвыя і зямельныя, хібы ў доме жыллёвага кааператыва ў курортным пасёлку Нарач (Купа), будаўніцтва каналізацыі ў здраўніцы.

Цікавіла людзей газіфікацыя вёсак Сваткі і Княгінін. Старшыня Мінаблвыканкама падкрэсліў, што чарговасць падвядзення інжынерных камунікацый вызначаная Мядзельскім райвыканкамам і будзе весцися паводле графіка.



Фота ic.pics.livejournal.com.

Сямён Шапіра правёў у Мядзеле прыём грамадзян.

Завіталі людзі з просьбай знесці суседскія пабудовы ў вёсцы Баяры Мядзельскага сельсавета. Лічаць, што сусед узвёў іх незаконна. Сямён Шапіра растлумачыў, што, хутчэй за ўсё, прыйдзецца звярнуцца з гэтай праблемай у суд. Але ён не бачыць прычын зносіць суседскія пабудовы і параіў вырашаць пытанне з суседзямі мірным шляхам.

На прыём прыйшлі прадстаўнікі кампаніі, што рэалізуе інвестыцыйны праект па будаўніцтве туркомплексу паляўнічага і рыбалова ў курортным пасёлку Нарач (Купа). Яны папрасілі падоўжыць тэрмін інвестыцыйнага дагавора. Бо пачатак работ на аб'екце адкладаецца – як лічаць у кампаніі, не па іх віне.

Гэтую сітуацыю павінна вывучыць спецыяльная камісія ў аблвыканкаме. Сямён Шапіра папярэдзіў, што аблвыканкам возьме на асаблівы кантроль рэалізацыю інвестыцыйных праектаў у курортнай зоне Нарачанскага рэгіёна. "Пад выглядам турыстычных аб'ектаў некаторыя спрабуюць пабудаваць сабе прыватныя дамы на берагавой лініі. Такога не будзе", прыводзіць яго словы БЕЛТА.

Старшыня Мінаблвыканкама выказаўся за пашырэнне вытворчасці экалагічна чыстых прадуктаў у фермерскіх гаспадарках Мядзельшчыны.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Наталі ТУР.

● ДА 20-ГОДДЗЯ "РГ"

## Дзяніс Канецкі пра "Рэгіянальную газету"

**У сённяшнім нумары пра сваю гісторыю знаёмства з "РГ" распавядае кіраўнік Вілейскай суполкі таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Дзяніс Канецкі:**

– Актыўным чытачом "Рэгіянальнай газеты" я стаў дзякуючы кур'ёзнаму выпадку на працы.

Пасля каледжа пайшоў працаваць ў Вілейскія электрычныя сеткі. У той час начальнікам там быў **Анатоль Валянцінавіч Рогач**. Гэта надзвычай цікавы чалавек, краязнаўца, які глыбока вывучаў гісторыю Вілейшчыны. Ён быў чытачом і актыўным аўтарам "РГ".

Аднойчы Анатоль Валянцінавіч завітаў да нас у брыгаду і заўважыў нейкія недахопы. Увечары выклікаў мяне да сябе ў кабінет і загадаў, каб заўтра ж прынеслі квіток на паўгадавую падпіску на "Рэгіянальную газету".

Атрымаўшы першы нумар "РГ", я быў вельмі ўражаны зместам артыкулаў пра гісторыю нашага і суседніх раёнаў. І ужо на наступны тыдзень з нецярплівасцю чакаў новы нумар.

"РГ" дае магчымасць пазнаёміцца не толькі з гісторыяй рэгіёна, але і з людзьмі, якія цікавяцца гэтым. Дзякуючы ёй можна завязаць знаёмствы з аднадумцамі. Я не ведаю пра многіх цікавых краязнаўцаў рэгіёна, але сустрэў іх на старонках "РГ".

Вось таму я і сёння чытаю "Рэгіянальную газету".

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

● ТРАНСПАРТ

## У Вілейцы на час рамонту мяняецца расклад "двойкі" і "тройкі"

ВІЛЕЙКА

**Пераезд па вуліцы Шубіна закрываецца на рамонт.**

Ад 1 да 14 чэрвеня рух будзе арганізаваны ў аб'езд праз іншы чыгуначны пераезд па вуліцы Лаўрыновіча.

Пра гэта паведамілі ў аддзяленні ДАІ.

Таксама мяняецца рух гарадскіх аўтобусаў №2 і №3. Расклад зрушыцца ў сярэднім на 10 хвілін пазней, распавяла вядучы інжынер аддзела перавозак аўтапарка №5 **Тамара Субач.**

Аўтобус №2 па маршруце Стаўкі-Карвелі будзе ехаць у бок горада ад Карвеляў па рабочых днях у 7:11, 8:33, 13:16, 16:21, 17:43, 19:13.

Па выхадных "двойка" адправіцца ў 8:15, 10:09, 11:38, 13:09, 14:40.

Аўтобус па маршруце №3 (асноўны) з Валынца ў бок горада пойдзе ў 6:35, 7:35, 8:38, 9:41, 10:56, 11:55, 13:00, 14:03, 15:06, 16:09, 17:12, 18:15, 19:18, 20:21, 21:34.

Дадатковы аўтобус №3 адправіцца ў 7:11, 8:14, 9:17, 10:20, 11:06, 18:09.

**Аддзел інфармацыі.**

● НАВІНЫ

## У якія дні ў Маладзечне не будуць прадаваць спіртное

МАЛАДЗЕЧНА

Адпаведнае рашэнне прыняў Маладзечанскі райвыканкам 24 красавіка.

- 21 мая
- 18 чэрвеня
- 16 ліпеня
- 20 жніўня
- 17 верасня
- 15 кастрычніка
- 19 лістапада
- 17 снежня

Абмежаванне продажу будзе дзейнічаць ад апоўначы выбранага дня цягам сутак.

Выканкам прадугледзеў выключэнне – рознічны гандль на месцах грамадскага харчавання на разліў.

Адзіныя дні прафілактыкі праводзяць для папулярызацыі здаровага ладу жыцця, прафілактыкі п'янства і алкагалізму і барацьбы з імі.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага райвыканкама.**

## Забілі пажылую жанчыну і схавалі цела ў ванне

МЯДЗЕЛ

У міліцыю 21 мая паступіла паведамленне, што знікла 76-гадовая жыхарка Мядзела.

Вялі яе пошукі. Праз два дні цела жанчыны знайшлі ў тым жа шматкватэрным доме, дзе яна жыла, але ў іншай кватэры.

Цела знаходзілася ў запоўненай вадой ванне. На ім былі гематомы, на галаве – сечаныя раны, парэзаная шыя.

Прызнаўся ў забойстве 46-гадовы гаспадар кватэры. Ён затрыманы. Быў мужчына неаднаразова судзімы.

Узбудзілі крымінальную справу за забойства заведама састарэлай асобы, здзейсненае з асаблівай жорсткасцю, расказаў намеснік начальніка Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта Беларусі **Міхаіл Сакалдынскі.**

## Атрымайце бясплатны доступ да электроннай бібліятэкі

МАЛАДЗЕЧНА

Цэнтральная раённая бібліятэка імя Максіма Багдановіча прапануе бясплатны тэставы доступ да электроннай бібліятэкі "Выдавецкага дома "Грабеннікаў".

Акцыя дойдзецца да 30 чэрвеня 2015 года.

У базе ёсць часопісы па чатырох асноўных накірунках: маркетынг, менеджмент, фінансы, кіраванне персаналам. Цяпер на рэсурсе змешчана больш за 40 тысяч артыкулаў з 32 электронных перыядычных выданняў.

Электронная бібліятэка мае зручны рубрыкатар па 300 тэмах, падрабязныя анатацыі да артыкулаў, мае магчымасць пошуку артыкулаў па аўтарах, назве і ключавых словах.

Абанемент цэнтральнай бібліятэкі знаходзіцца па адрасе: Вялікі Гасцінец, 121. Тэлефон для даведак: **(8-0176) 76-03-43, (8-0176) 76-06-45**.

**Аддзел інфармацыі.**

ТРАНСПАРТ

# Хто павінны падысці ў транспарце: кандуктар да пасажыра ці наадварот?

РЭГІЁН

**Такая сітуацыя магла здарыцца ў любым з сямі гарадоў рэгіёна, у якім выходзіць "Рэгіянальная газета". Таму канкрэтызаваць не будзем, дзе менавіта гэта было.**



Фота Наталлі ТУР.

Некаторыя пасажыры клапоцяцца пра набыццё білетаў яшчэ на прыпынку. І загадзя рыхтуюць грошы.

Вечар. Гадзіна пік. У аўтобус увакодзяць кантралёры. Спыняюцца ля дзяўчыны, якая едзе без білета.

Далей паміж кандуктарам, кантралёрам і дзяўчынай адбываецца наступны дыялог:

Дзяўчына: Я не купіла білет, таму што кандуктар да мяне не падышла.

Кандуктар: Я спыталася, каму трэба білет, вы глядзелі ў акно і не адказалі мне.

Дзяўчына: Вы абавязаныя былі падысці да мяне!

Кандуктар: Не абавязаная. Я абавязаная абілецць.

У размову ўступае кантралёр:

– Калі вы заходзіце ў аўтобус, вы самі павінны знайсці кандуктара і купіць білет. Так як і абавязаныя закампасціраваць білет. Таму плаціце штраф – 90 тысяч рублёў.

Дзяўчына:

**Я не буду плаціць штраф. Да мяне толькі цяпер падышла кандуктар, таму вось грошы на праезд.**

Кандуктар, кантралёр яшчэ некалькі хвілін патапталіся каля дзяўчыны. Кантралёр пагражала тым, што выкліча міліцыю і складзе пратакол.

Але праз некалькі хвілін пагроз здалася:

– Добра, на першы раз даруем. Але больш так не рабіце.

Пасля гэтага інцыдэнту засталіся нявырашаныя пытанні.

Хто ж павінны паклапаціцца пра набыццё білета: кандуктар ці пасажыр? Ці дастаткова ў выпадку праверкі кантралёра проста набыць білет і не плаціць штраф? Навошта тады працуюць кантралёры, калі яны "даруюць на першы раз?"

## Пра білет павінны клапаціцца пасажыр

На каментар мы звярнуліся да начальніка аддзела пасажырскіх перавозак аўтобуснага парка №4 **Аляксандра Кавалёва**:

– У правілах напісана толькі адно: пасажыр павінны паклапаціцца пра набыццё білета, а кандуктар пра тое, каб прадаць пасажыру гэты білет.

**Хто да каго павінны падысці, у правілах не напісана. Аднак у інструкцыі па тэхніцы бяспекі ўказана, што кандуктару забаронена прадаваць білеты стоячы, калі няма магчымасці трымацца за парэнчы.**

– А як быць з сітуацыяй, калі кантралёр даруе штраф?

– Складана сказаць. Трэба прысутнічаць пры гэтай сітуацыі. Здараецца, што кандуктар сядзіць і лялякае па тэлефоне, а чалавек стаіць з грашыма ў руках. Хаця часцей нашы людзі заходзяць у куточак, заціскаюць грошы ў кулачку і баяцца, што да іх падыдзе кандуктар.

Калі ў вас ёсць гісторыя, якая адбылася з вамі ў грамадскім транспарце, падзяліцеся ёю з намі.

**Наталля ТУР.**

ЗДАРЭННІ

## Па тры мільёны за кілаграм

ВІЛЕЙКА

А палове шостай раніцы 24 мая супрацоўнікі Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету затрымалі жыхара Вілейкі. Адбылося гэта на рацэ Сэрвач паблізу вёскі Людвінова Вілейскага раёна.

Падчас веснавой забароны на лоўлю рыбы мужчына незаконна здабыў 14 ляшчоў і чатыры гусцяры. Для гэтага выкарыстоўваў дзве рыбалоўныя сеткі.

– Хоць рыба заважыла толькі восем кілаграмаў, за яе парушальніку давядзецца заплаціць больш за 25 мільёнаў рублёў. Акрамя сетак і рыбы, у браканьера канфіскавалі лодку, – расказаў старшы дзяржінспектар Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету **Уладзімір Хіла**.

На месца затрымання выклікалі следча-аператыўную групу Вілейскага РАУС і прадстаўніка райаддзела Следчага камітэта, куды перадалі матэрыялы для правядзення праверкі і прыняцця рашэння аб узбуджэнні крымінальнай справы за незаконную здабычу рыбы.

Апроч пакрыцця шкоды і кошту рыбы, парушальніку пагражае альбо штраф ад дзевяці мільёнаў рублёў ці абмежаванне альбо пазбаўленне волі на тэрмін да двух год.

**Аддзел інфармацыі.**

## Жыхар Валожынскага раёна скраў цяля і зарэзаў яго, каб вярнуць доўг

ВАЛОЖЫН

Валожынскі РАСК паведаміў падрабязнасці здарэння, якое адбылося ў вёсцы Бабровічы.

Тады невядомы з фермы ў гэтай вёсцы скраў цяля.

У выніку працы следчых высветлілася, што цяля скраў 28-гадовы жыхар вёскі. Ён быў вінаваты сябру пэўную суму грошай.

Каб расплаціцца, выкраў цяля, зарэзаў яго і аддаў сваму сябру. Той доўг дараваў.

Валожынскі РАСК узбудзіў крымінальную справу. Хлопцу пагражае турэмнае зняволенне.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" распавяла следчая Валожынскага РАСК **Дар'я Мікуліч.**

**Наталля ТУР.**




Інфаграфіка Насці РОЎДЫ.

| Курсы валют НБ РБ | 21.05 | 28.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 14 290,00 | **14 530,00** |
| Еўра | 15 930,00 | **15 860,00** |
| Злоты | 3 916,04 | **3 828,92** |
| Расійскі рубель | 287,50 | **289,00** |
| Грыўня | 670,77 | **674,25** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 27.05** | | |
| Еўра | 15700/15940 | 15750/15980 |
| Долар ЗША | 14140/14300 | 14440/14640 |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 20.05 | 27.05 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 142000 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53750 | **53750** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 25800 | **25800** |
| Свініна (вырэзка), 1 кг | 80000 | **80000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 36900 | **36800** |
| Селядзец, 1 кг | 48000 | **45000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 118000 | **118000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14000 | **14000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13700 | **13700** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 12900 | **12900** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 18000 | **18000** |
| Маянэз, 200 г | 4900 | **4900** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14500 | **14500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 35000 | **35000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7500 | **10900** |
| Капуста, 1 кг (свежая) | 13900 | **13900** |
| Морква, 1 кг | 16900 | **18500** |
| Буракі, 1 кг | 6500 | **6500** |
| Радыска, 1 кг | 21500 | **14900** |
| Лімоны, 1 кг | 33900 | **34900** |
| Апельсіны, 1 кг | 16900 | **17900** |
| Мандарыны, 1 кг | 26900 | **26500** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 23000 | **33000** |
| Ківі, 1 кг | 28000 | **24900** |
| Нектарын, 1 кг | - | **49000** |
| Абрыкос, 1 кг | - | **49000** |
| Клубніцы, 1 кг | - | **65000** |
| Памідоры, 1 кг | 26900 | **26900** |
| Агуркі, 1 кг | 19900 | **11900** |
| Перац, 1 кг | 45900 | **49500** |
| Вінаград, 1 кг | 39900 | **34900** |
| Бананы, 1 кг | 20900 | **18500** |
| Яблыкі, 1 кг | 13500 | **13900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 28500 | **22500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба, 1 кг (маладая) | 12900 | **13900** |
| Сала, 1 кг | 65000 | **65000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **55000** |

ІНСПЕКЦЫЯ ПА СПРАВАХ НЕПАЎНАЛЕТНІХ

# Хадзіла з падушкай і прыкідвалася цяжарнай

МАЛАДЗЕЧНА

**Двое школьнікаў правярнулі ў Маладзечне серыю крадзяжоў з кіёскаў і напалі на жанчыну з прадметам, падобным да пісталета. Што яшчэ вытварылі падлеткі, распавядае начальнік інспекцыі па справах непаўналетніх Маладзечанскага РАУС Сяргей Шытыка.**



Канфуз з 17-гадовай "цяжарнай" здарыўся напрыканцы мінулага года.

Дзяўчына прыйшла да адміністрацыі каледжа і паказала даведку аб сваім цікавым становішчы: так і так, цяжарная.

Сумневы ні ў каго не закраліся, бо жывот вельмі натуральна павялічваўся разам з тэрмінам.

Калі надышоў час нараджаць, яна пайшла ў адпачынак.

Праз некаторы час з каледжа патэлефанавалі, каб дазнацца пра яе стан. Дзяўчына распавяла, што ўсё выдатна: нарадзіла двойню, жыве ў Вілейцы.

Невядома, колькі яшчэ часу ўсе верылі б у існаванне двойні, калі б некалькі чалавек ад каледжа не прыехалі ў адведкі. Тут і высветлілася, што двойня жыве толькі ў фантазіях.

Як навучэнка пазней прызналася, даведку аб цяжарнасці яна набыла ў сталіцы.

У выніку разбіральніцтва дзяўчыну накіравалі на грамадскія працы. Цяпер яна зноў вучыцца.

## Абакралі кіёскі і напалі на жанчыну

У гэтым здарэнні замешаныя двое 15-гадовых школьнікаў. Падлеткі з няпоўных сямей. У аднаго няма бацькі, у другога – маці.

Раней яны вучыліся разам, пасля разышліся па розных школах, але іх сяброўства працягвалася. Тым больш, што жывуць яны непадалёк адзін ад аднаго.

На пачатку года адзін з іх трапіў у міліцыю за хуліганства, а другі – за крадзеж двух мабільных тэлефонаў у школе. Пазней хлопцы напалі на жанчыну з прадметам, падобным да пісталета.

Пасля арышту стала вядома, што ў дадатак хлопцы па начах абкрадалі кіёскі.

Выплыла серыя крадзяжоў толькі ў гэты час, таму што бацькі давалі ім алібі. Казалі, што дзеці спалі, калі тыя былі невядома дзе.

Цяпер хлопцам пагражае пазбаўленне волі да сямі гадоў.

## Злачыннасць – адлюстраванне ўзроўню жыцця

– Мы бачым праблему росту злачыннасці. Яна як адлюстраванне нашага жыцця. Некалькі гадоў таму, калі крыху лепш жылі, злачыннасць была меншая. Як дарослая, так і дзіцячая. За ўвесь 2013 год непаўнагадовыя здзейснілі 13 злачынстваў. Цяпер столькі ж за чатыры месяцы. Гэта мяне вельмі засмучае, – зазначае Сяргей Шытыка.

У сувязі з такім станам рэчаў міліцыя шмат працуе на прафілактыку. Сёлета двух вучняў адной з маладзечанскіх школ накіравалі ў спецыяльныя навучальныя ўстановы закрытага тыпу. Аднаму з іх 12 гадоў, другому – 14. Падлеткі стаялі на ўліку ў міліцыі каля года. Увесь гэты час кралі, хуліганілі.

– Колькі з імі ні размаўлялі, колькі бацькі штрафаў ні плацілі – вынікаў ніякіх. Выйшлі з-пад кантролю і бацькоў, і школы, – рэзюмуе Сяргей Шытыка. – Па рашэнні суда адзін з іх атрымаў паўтара года ў спецыяльнай навучальнай установе, а другі – два.

## Як міліцыя вырашае праблему росту злачыннасці

Ад 1 мая да 1 кастрычніка ў краіне ідзе рэспубліканская праграма "Клопат". Шмат увагі ў ёй адведзена арганізацыі занятасці падлеткаў летам.

Супрацоўнікі міліцыі прааналізавалі стан усіх аздараўленчых летнікаў, дзе дзеці будуць знаходзіцца кругласутачна.

Глядзелі, наколькі яны тэхнічна ўмацаваныя, ці могуць у іх залезці чужыя і ці змогуць дзеці выйсці самі. Аналізавалі, ці добра прадумана, як захаваць у цэласці маёмасць тых, хто будзе адпачываць.

З дзевяці лагераў у пяці знайшлі вялікія парушэнні. У адміністрацыі лагераў накіравалі прадстаўленні.

У межах праграмы правялі дадатковыя сустрэчы з вучнямі і іх бацькамі.

– Мы праверылі, чым будуць занятыя летам 163 падлеткі, якія цяпер стаяць у нас на ўліку, – распавядае Сяргей Шытыка. – Мы ведаем, дзе яны будуць знаходзіцца ў кожны летні месяц. Дзецям, якія не занятыя вучобай, работай ці адпачынкам у летніку, прапанавалі працу. Вядома, мы не можам прымусіць ісці працаваць. Шмат залежыць і ад бацькоў. Некаторыя гавораць: "Я не хачу, каб мой сын працаваў. Хачу, каб ён проста боўтаўся ў двары". На шчасце, такіх няшмат.

З пачаткам летняга сезона супрацоўнікі міліцыі будуць выязджаць у лагеры, паказваць прафілактычныя фільмы, якія ахопліваюць тэмы наркаманіі, алкагалізму, бяспекі на вадзе і небяспекі агню.




Інфаграфіка Настассі РОЎДЫ.



Настасся РОЎДА
nastya.rovdo@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

# Закончанае расследаванне крымінальнай справы аб жорсткім забойстве

ВІЛЕЙКА

**Упраўленне Следчага камітэта па Мінскай вобласці завяршыла расследаванне крымінальнай справы аб жорсткім забойстве мужчыны. Ён быў у вышуку як без вестак зніклы ў лістападзе мінулага года.**

Аб знікненні 36-гадовага віляйчаніна стала вядома ад знаёмай. Яна занепакоілася пасля таго, як мужчына некалькі дзён не з'яўляўся дома.

Труп мужчыны з множнымі колата-рэзанымі ранамі следча-аператыўная група знайшла ў штучным вадаёме каля дома ў Вілейцы, расказвае афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства затрымалі 41-гадовага жыхара Вілейкі і яго раней судзімую 40-гадовую сужытніцу, асобу без грамадзянства.

Напярэдадні мужчына знаходзіўся ў іх у доме, яны разам распівалі спіртное. Узнікла сварка, падчас якой гаспадар дома збіў госця, а затым нанёс яму нажавыя раненні. У гэты час жанчына некалькі разоў ударыла яго абухом сякеры па галаве.

**Каб утаіць забойства, сужыткі абматалі цела поліэтыленавай плёнкай і ўтапілі ў вадаёме.**

Паводле экспертызы, пацярпелы памёр ад механічнай асфіксіі з прычыны ўтаплення.

Следчыя таксама ўстанавілі факт крадзяжу маёмасці ў пацярпелага. Падчас здзяйснення жорсткага злачынства жанчына скрала ў мужчыны каля 400 тысяч рублёў.

Мера стрымання ў дачыненні да абвінавачаных з моманту іх затрымання не змянялася – яны заключаныя пад варту. Крымінальную справу накіравалі ў суд, дадае Таццяна Беланог.

**Аддзел інфармацыі.**

# Нарачанец прадаваў накрадзенае праз інтэрнэт

МЯДЗЕЛ

**Жыхар вёскі Нарач (Кабыльнік) быў шэсць разоў судзімы – і ўсе разы за крадзяжы. Вызваліўся летась у жніўні. Наймаў жыллё ў Мінску, а на малую радзіму прыязджаў... красці.**

У курортным пасёлку Нарач (Купа) 14 сакавіка скраў скутар. Праз некалькі дзён скраў яшчэ адзін скутар з гаспадарчай пабудовы ў вёсцы Нарач. Прыхапіў таксама ровар і бензакасу.

Багатай на здабычу для яго выдалася ноч на 30 сакавіка. Ён учыніў адразу чатыры крадзяжы ў вёсцы Нарач. Прыхапіў матаблок, два ровары, тэлевізар, выцяжку, посуд і нават дэпілятар, гальштукі.

Агулам скраў рэчаў амаль на 55 мільёнаў рублёў. Усё вывозіў у Мінск. Наймаў мікрааўтобус, тлумачыў, што пераязджае.

Каб прадаць скрадзенае, карыстаўся папулярным сайтам аб'яў. Прасіў крыху танней – і рэчы разыходзіліся.

Следчыя знайшлі іх у розных кутках Беларусі. Матаблок аказаўся ў Рагачоўскім раёне, скутары – у Мінску і Маладзечанскім раёне. Але большасць скрадзеных рэчаў нарачанец збыў у сталіцы. Амаль усё адшукалі.

Пра гэта расказаў намеснік начальніка Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта Беларусі **Міхаіл Сакалдынскі.** І даў параду, як не трапіць у непрыемную сітуацыю:

– Калі купляеце рэчы па аб'яве ў інтэрнэце, лепш пацікаўцеся, ці ёсць дакументы на іх. Бо людзі куплялі дарагія рэчы, аддавалі грошы – а цяпер пакупкі ў іх забралі, каб вярнуць законным уладальнікам. Спагнаць жа свае грошы яны змогуць, падаўшы на нарачанца ў суд.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Заданні квэста ад "Рэгіянальнай газеты" часам спалучаліся з забавамі. Напрыклад, завітаць на атракцыёны і пакатацца на лятучай талерцы.

Фота Настасві РОЎДЫ.

СПАБОРНІЦТВЫ

# "РГ" зладзіла квэст для моладзі

МАЛАДЗЕЧНА

**Дзесяць удзельнікаў квэсту ў суботу, 23 мая, бегалі па маладзечанскім парку ў пошуках падказак, якія мусілі прывесці да галоўнага скарбу.**

Гульню зладзіла "Рэгіянальная газета" разам з курсамі "Мова Нанова".

Сэнс палягаў у тым, што каманды павінны былі знайсці ўсе падказкі, якія загадзя схавала ў парку вядоўца **Зоя Хруцкая**. Пры гэтым разам з кожнай падказкай давалася дадатковае заданне і ключ. Выканаўшы ўсе заданні, каманда-пераможца атрымлівала восем ключоў, якія пасля неабходна было скласці ў форме беларускага сімвала ўрадлівасці – спарыша.

На розных этапах удзельнікі сутыкаліся з пытаннямі, звязанымі з гісторыяй, культурай, мовай нашай краіны. У дадатак ім трэба было ўвесь час уключаць логіку, без якой ніяк нельга было знайсці чарговую падказку.

У канцы гульні каманда, якая аказалася больш хуткай і кемлівай, адкрыла скарб. Там былі беларускія кнігі і дыскі, якія атрымалі ў падарунак усе ўдзельнікі. Лепшай камандзе дасталася больш прызоў.

Арганізатары і ўдзельнікі пагадзіліся, што лепшы гулец – вучаніца гімназіі №6 **Ганна Дземеш**. Яна ў падарунак атрымала МР3-плэер.

Сярод заданняў былі пытанні на веданне гісторыі Беларусі і размяшчэння розных аб'ектаў у парку. Але патрабаваліся не толькі інтэлектуальныя веды, але і фізічныя паказчыкі. Удзельнікам давялося як мага хутчэй аб'ехаць вадаём у парку на катамаране, знаходзіць новыя падказкі, а таксама праявіць вынослівасць, каб пакатацца на экстрэмальным атракцыёне "Лятаючая талерка".

**Паспрабуйце і вы выпрабаваць сябе і адказаць на некаторыя пытанні з квэсту:**

1. Сімвалам чаго быў крыж у дахрысціянскі час?
2. Магічную ахоўную функцыю ў старажытнасці мелі ўпрыгожванні. Які дэкаратыўны элемент выконваў гэтую функцыю пазней?
3. Як называлася адна з залатых шляхетных вольнасцяў, якая давала права законнага ўзброенага паўстання супраць тыраніі?

Адказы чытайце пад подпісам.

**Настасся РОЎДА.**

**Адказы:**
**1. Агню. Ён нагадваў дзве скрыжаваныя палачкі, якімі здабывалі агонь.**
**2. Вышыўка.**
**3. Рокаш.**



Лепшым гульцом абралі Ганну Дземеш. У падарунак яна атрымала МР3-плэер.

Фота Настасві РОЎДЫ.




Удзельнікі атрымалі заданне пракаціцца на катамаране і адшукаць каля ратондаў наступную падказку.

Фота Настасві РОЎДЫ.




Злева направа: Наталля Тур, Зоя Хруцкая і Настасся Роўда.

Фота Настасві РОЎДЫ.

МОЛАДЗЬ

## Маладзечанцы шукалі формулу паспяховага выбару прафесіі

МАЛАДЗЕЧНА

**Рэспубліканскае свята "Мая прафесія – мая будучыня" адбылося ў Маладзечне 23 мая.**

У Палацы культуры прайшло ток-шоу "Формула паспяховага выбару прафесіі". Падчас абмеркавання яе шукалі кіраўнікі прадпрыемстваў горада, дырэктары і навучэнцы сярэдняй спецыяльнай адукацыі, выпускнікі школ і гімназій, актывісты грамадскіх арганізацый і аб'яднанняў.

– Для павышэння якасці адукацыі трэба павышаць матывацыю тых, хто паступае. Варта больш актыўна праводзіць прафарыентацыйную работу, на больш ранніх этапах выяўляць прафесійныя схільнасці дзяцей. Павінны быць высокакваліфікаваны персанал і, безумоўна, сучасная матэрыяльна-тэхнічная база ўстановы, – адзначыў **Міхаіл Клокель**, дырэктар Маладзечанскага дзяржаўнага політэхнічнага каледжа.

Намеснік дырэктара гэтай установы **Алена Галгоўская** дадала, што вельмі важна ствараць імідж навучальнай установы, бо гэта візітная картка, ад якой залежыць колькасць абітурыентаў.

Вёў ток-шоу вядомы журналіст **Павел Лазовік**, выпускнік гімназіі №10 Маладзечна. Ён падзяліўся сваім досведам прафесійнага выбару:

– На творчы характар маёй прафесіі шмат у чым паўплывалі заняткі ў тэатральнай студыі "Казка" ў цэнтры пазашкольнай работы. Яшчэ ў гімназіі у нас была свая газета. У старэйшых класах я быў яе рэдактарам. Канчатковы выбар зрабіў пасля наведвання дня адкрытых дзвярэй факультэта журналістыкі БДУ. Я вельмі люблю сваю работу. Яна не дае мне сумаваць, бо журналіст штодня сустракаецца з новымі людзьмі, і кожны дзень не падобны на іншыя. Гэта прафесія дае магчымасць пастаянна развівацца і дасягаць тых вышынь, аб якіх марыш.

А вось пераможца рэспубліканскага конкурсу "Настаўнік года", настаўнік гісторыі СШ №11 **Віктар Жук** прызнаўся, што ажыццявіў сваю мару толькі напалову, бо хацеў стаць гісторыкам-медыявістам, вывучаць эпоху сярэднявечча, яе побыт, традыцыі, бітвы. Але зараз ні пра што не шкадуе.

Падчас ток-шоу працаваў маладзёжны прэс-цэнтр маладзечанскага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік". Выпускнікі падзяліліся з юнымі журналістамі сваімі планамі на будучыню.

– Я выбрала для сябе прафесію хіміка-эколага, якая ў нашай краіне з'яўляецца новай. З самага дзяцінства марыла дапамагаць прыродзе і навакollю, таму абсалютна ўпэўненая ў правільнасці свайго выбару, – распавяла **Марыя Андрыяновіч**, вучаніца гімназіі №3 Маладзечна.

Сустрэць у жыцці людзей, якія дапамогуць у правільным выбары прафесіі, а таксама адкрыць у сабе задаткі і зразумець, што табе бліжэй, – вось формула паспяховага выбару прафесіі.

– Перад выпускнікамі адкрыты тысячы дарог, і любая з іх у роўнай меры даступная кожнаму. Таму вучыцеся, выражайце і будзьце паспяховымі, – пажадала рэктар Рэспубліканскага інстытута прафесійнай адукацыі доктар педагагічных навук **Аксана Папова**.

**Дар'я СВІРЫДА, школа журналістыкі "Маладзік".**

ЗАБАВЫ

## Пашукаюць скарб у краіне майстроў

ВІЛЕЙКА

**Квэст "За скарбам у краіну майстроў" пройдзе 2 чэрвеня. Пачатак – у 11 гадзін на падворку раённага Дома рамёстваў. Прысвячаецца квэст Міжнароднаму дню абароны дзяцей.**

Прадстаўляюць яго майстры Дома рамёстваў і Ізбіноўская бібліятэка.

– Будуць забавы, конкурсы, гульнявая праграма для аматараў паданняў, майстар-класы па народных рамёствах. Удзельнікі развучаць народныя танцы і беларускія гульні, а напрыканцы атрымаюць пасведчанні сапраўднага майстра, – расказвае бібліятэкар Ізбіноўскай бібліятэкі **Іна Лазар**.

Ахвотным паўдзельнічаць пажадана зарэгістравацца да 30 мая ў Ізбіноўскай бібліятэцы ці па нумары **(8029) 762-36-64**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

18 МАЯ – МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ МУЗЕЯЎ

# Сустрэліся ўраджэнцы вёскі ды іх нашчадкі

## “Хай ведаюць, што дзед у такой прыгажосці нарадзіўся!”

ВІЛЕЙКА

**– Ой, як жа ты маю дачку не пазнаў! – Я і цябе не пазнаў: колькі год прайшло!**

Такія дыялогі можна было пачуць 23 мая ў вёсцы Будзішча Ільянскага сельсавета. У раскінутай у лесе вёсачцы сабраліся яе ўраджэнцы ды іх нашчадкі. Прыехалі з бліжэйшых Вілейкі ды Маладзечна, з далейшага Ваўкавыска. Некаторыя не бачыліся 30 год!



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Сустрэча ў вёсцы Будзішча. Яны не бачыліся 30 год, таму эмоцый шмат.

### Ад свайго роду – да ўсёй вёскі

Пяць год таму ў вёсцы адбылася сустрэча роду нашчадкаў **Антося і Кацярыны Кліменкаў** з Будзішча. Арганізаваў яе **Мікалай Апяцёнак** з Маладзечна.

Сёлета ён вырашыў сабраць выхадцаў з усёй вёскі ды іх нашчадкаў. Разам са старастай вёскі **Наталляй Дуровіч** і зрабілі гэта.

### “Хто тут старэйшы, прадстаўляецеся”

Так віталі купкі людзей, што вылазілі з машын у цэнтры вёскі. І пачыналіся размовы і бясконцыя ўспаміны.

А якія чуллівыя сустрэчы былі! Такія, што на вачах не толькі жанчын, але і мужчын з'яўляліся слёзы – ад добрых эмоцый.

– За адной партай сядзелі. А трыццаць год не бачыліся! – прызнаваліся аднакласнікі.

– Не пазнала?

– Пазнала. Ты ж самы прыгожы хлопец у вёсцы быў! – усміхаліся.

### “Усе мы з гэтага гнязда”

– Запрасілі сям'ёй прыехаць: жонку, дзяцей і ўнукаў сабраў. У дзве машыны селі і паехалі, – эмацыйна расказвае **Антон Вайтовіч** з Маладзечна. – Мо, чвэрць стагоддзя тут не быў. Так усё змянілася. Здалёку паглядзеў на дом, дзе нарадзіўся. Сцяжынкі свае пагледзеў, дзе ў школу хадзіў, дзе гуляў. Унук пытаецца: “Дзе ж ты нарадзіўся, дзядуля?” Паказаў. А ён: “А як тут добра!” А ўнучка: “Дзядуля, тут так класна”. Хай яны ведаюць, што дзед у такой прыгажосці нарадзіўся!

Прывозілі з сабой старыя фатаграфіі: уважліва разглядалі, стараліся пазнаць сваіх продкаў. Падказвала бабуля Галіна. Ёй 75-ы год ідзе.

– Я з Беражка прыехала. Не пазнала родную вёску, лецішчаў тут ужо колькі, – прызнаецца. – Цікава мне сёння тут: канешне, хочацца ў родную вёску прыехаць. Уперад было тут радні...

**– А з маладосці што ўспамінаецца?**

– Усё. Як на санках каталіся. Як паедзем з гары, то аж да возера. Весела!

Яшчэ чыталі пра гісторыю Будзішча. Цікавая яна ў вёскі, некалі напішам у газеце пра яе падрабязна.

– У 1795 годзе ў Будзішчы было чатыры дамы. Адзін з іх – **Сцяпана Дуровіча**, нашага продка, – расказвае Наталля Дуровіч. – І такія прозвішчы былі, яны і цяпер ёсць, **Жаўняровічы**, **Сонічы** і **Кліменкі**. Так што, усе мы з гэтага гнязда.

Мікалай Апяцёнак паказаў архіўныя дакументы з гісторы роду ды вёскі і рэчы, што яго дзед Воліс прывёз з Амерыкі ў 30-я гады 20 стагоддзя: рулетку, табакерку, кубачак.

– А я помню мерачку твайго дзеда, дровы ёй адмяраў. Роўненькія-роўненькія атрымліваліся, – тут жа дадае жанчына.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Мікалай Апяцёнак паказвае старыя дакументы.

Запісваліся ўсе ў адмысловую кнігу. Дзякавалі ў ёй арганізатарам, прызнаваліся, што вельмі радыя ўбачыць родныя мясціны, пазнаёміцца з дзецьмі і ўнукамі аднавяскоўцаў. Нумары тэлефонаў пакідалі – каб не губляць сувязь.

### Крыж для вёскі

У гэты дзень настаяцець царквы ў Вязыні айцец Міхаіл асвяціў памятны крыж ў вёсцы. Ля крыжа зрабілі фотаздымак на памяць.

Потым усе пайшлі на бераг возера ў Будзішчы. Там зладзілі сяброўскі стол, адпачылі пад песні артыстаў з Ілы. А ўвечары распалілі вялікае вогнішча.

Падлічылі, што ля шасцідзесяці чалавек было на сустрэчы. Як развітваліся, казалі: “Да сустрэчы, да наступнага года”. А хто абяцаў: ”Зараз адзін прыехаў, а праз год і ўнукаў вазьму”

Цвёрда дамовіліся сустрэцца праз год. І хочуць яшчэ большым колам сабрацца.



Алесь ВЫСОЦКІ
E-mail: alvy@tut.by

ПАДЗЕІ

# Вілейка сустракала “Ноч музеяў” пад дажджом

ВІЛЕЙКА

**Берка Берман** асвойваў старадаўні фотаапарат, ажыўлена нешта абмяркоўвалі староста Вілейскі **Юзаф Пац** і першадрукар **Іван Фёдараў**. Гэта вілейскія артысты рыхтаваліся да выхаду на сцэну падчас “Ночы музеяў”.

Прайшло гісторыка-музычнае шоу увечары 23 мая на плошчы Свабоды.

Пачаў праграму эстрадна-джазавы ансамбль **Фёдара Гура**. А неўзабаве пайшоў дождж. Ён то спыняўся, то зноў прымушаў гледачоў даставаць парасоны.

Так пад дажджом і выходзілі на сцэну персанажы, звязаныя з гісторыяй Вілейкі – ад Кацярыны II з фрэйлінамі да Мікалая II, ад стваральніка першай украінскай Канстытуцыі **Піліпа Орліка** да мастака **Нікадзіма Сілівановіча**. Яны навыперадкі хваліліся, чым адзначыліся ў гісторыі горада. Староста Юзаф Пац не забыў прыгадаць пра знакамітую “лысіну Паца”.

Хапала наведнікаў у музеі. Яны знаёміліся з інтэрактыўным выставачным праектам “1418 дзён вайны”. Юным наведнікам асабліва падабалася фатаграфавацца ля формы савецкага лётчыка і ў зямлянцы. Аматары рыцарскай рамантыкі падыходзілі на плошчы да ўдзельнікаў клуба гістарычнай рэканструкцыі “Паходня”.

У гэты дзень віляйчане маглі пачуць музыку самую разнастайную. І артысты выступалі вілейскія ды заезджыя. У кожнага былі свае прыхільнікі. Хто з гараджан імклівае выцягваў фотаапарат, ледзь на сцэне з'явіліся ўдзельнікі цыганскага шоу “Алюр”, нехта падпяваў мясцовым артыстам. Хто пад дажджом рабіў гэта найшчырэй, атрымоўваў прызы.

Галоўным жа прызам стаў ровар. Шанц выйграць яго атрымалі шэсць чалавек, у каго білеты заканчваліся на знакавую дату з гісторыі Вілейкі. Уручылі ровар таму з іх, хто найлепш адказаў на пытанні вікторыны. Атрымала яго **Святлана Чабрыцкая.**

Таксама выступілі ансамбль казачай песні “Бацька Атаман” і кавер-бэнд “JIVAGO BAND”. А ўдзельнікі цыганскага шоу прызнавалі Вілейку самым спяваючым горадам.

Пабачылі гараджане фаер-шоу. Завяршылася ўсё па апоўначы.

– Нягледзячы на дождж, на “Ноч музеяў” прадалі амаль 1100 білетаў. Каля 400 з іх – у дзень правядзення, – расказаў дырэктар краязнаўчага музея і адзін з вядучых свята **Сяргей Ганчар.**

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

КОНКУРСЫ

# Мядзяльчанка стала фотамадэллю свету на міжнародным конкурсе талентаў і прыгажосці

МЯДЗЕЛ

Конкурс “Little miss world & Little mister world-2015” праходзіў у Турцыі ад 6 да 18 мая. Праводзіўся ён у 23 раз.

Сярод чатырох беларусаў удзельнічалі ў міжнародным конкурсе талентаў і прыгажосці адзінаццацікласніца гімназіі-інтэрната Мядзела **Кацярына Кавальская.**

Праграма была насычаная: разнастайныя конкурсы, дэфіле, фотасесіі. У выніку Кацярына заваявала званне “Фотамадэль свету” ва ўзроставай катэгорыі 16-18 год.

Кацярына выхоўваецца ў сямейным дзіцячым доме **Жанны Кавальскай** у вёсцы Занарач на Мядзельшчыне. Дапамаглі Кацярыне паўдзельнічаць у конкурсе сямейны сацыяльны цэнтр “CentroLife” і іншыя мецэнаты.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

СВЯТЫ

# Сёмуху адзначаць раённым святам

ВІЛЕЙКА

У вёсцы Нарача 31 мая адбудзецца раённае свята “Збірайся, народ, у траецкі карагод!”.

Культработнікі пакажуць святочны абрад. Пройдзе раённы конкурс прыпевак, канцэрт з удзелам калектываў аматарскай мастацкай творчасці горада і раёна, выстава-продаж вырабаў народных майстроў, паведаміў метадыст раённага метадычнага цэнтра народнай творчасці і культурна-асветніцкай работы **Андрэй Баўтрукевіч.** Запрацуюць гандлёвыя рады і дзіцячая пляцоўка.

**Пачатак а 12 гадзіне.**

**Аддзел інфармацыі.**

МЕДЫЦЫНА

# Нават самыя хворыя не павінны чуць боль

## Адзінае аддзяленне паліятыўнай медыцынскай дапамогі ў рэгіёне месціцца ў Ільі

ВІЛЕЙКА

**Невылечна хворы чалавек таксама не павінны пакутаваць. Менавіта для таго, каб аблегчыць боль, існуе асобны раздзел медыцыны – паліятыўная тэрапія.**


Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Загадчык Ільянскай участковай бальніцы Юры Панятоўскі.


Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Доктар агульнай практыкі Святлана Кулік.

Пра тое, для каго такая галіна медыцыны неабходная і чаму для яе прадугледжанае цэлае аддзяленне, распавядае галоўны пазаштатны спецыяліст Мінскай вобласці па паліятыўнай медыцынскай дапамозе даросламу насельніцтву загадчык Ільянскай участковай бальніцы **Юры Панятоўскі**.

– Наша першачарговая задача – абязбольванне, – распавядае доктар. – Ёсць вядомая фраза, што боль – вартавы сабака здароўя. Ён як сігналізацыя: дакрануліся да гарачай пліты – рука забалела. Яе рэзка прынялі і не атрымалі апёк. Цяпер мы дадаём да фразы працяг: галоўнае, каб гэты сабака нас не загрыз. З памочніка боль можа ператварыцца ў вялікага ворага. Раней і я казаў пацыентам: баліць – прыміце лекі, можна цярпець – цярпіце. Цяпер сітуацыю медыкі перагледзелі: болю не павінна быць. Ён запускае небяспечныя працэсы ў арганізме: пакутуе сэрца, нервовая сістэма, павышаецца ціск. Таму мы змагаемся з болем усімі магчымымі сродкамі. Гэта тычыцца не толькі анкалогіі, але і іншых хвароб.

Паліятыўная медыцынская дапамога – падыход да лячэння, накіраваны на паляпшэнне якасці жыцця хворых і іх сямей, калі пацыенты сутыкнуліся з невылечнай хваробай. Сутнасць у тым, каб аблегчыць пакуты хворага. Слова паходзіць ад лацінскага “*pallium* “, ці плашч, накідка. Паліятыўная дапамога нібы пакрывалам ахінае хворых, каб суцішыць боль.

Раздзел паліятыўнай медыцыны бярэ пачатак ад анкалогіі. Менавіта пры гэтай хваробе, калі яна знаходзіцца ў тэрмальнай, ці апошняй стадыі, найчасцей неабходная дапамога. У такім стане спецыяльныя метады лячэння ўжо не паказаны. А чалавеку, гаворачы прама, неабходна дапамагчы так, каб ён не пакутаваў ад болю да канца жыцця.

### Анкахворых будзе усё больш

Разлічваючы аддзяленне, кіраўніцтва арыентавалася на сусветныя патрэбы: дзесяць ложкаў на паўмільёна чалавек. У Ільі пакрылі норму з запасам, таму што павялічваецца колькасць анказахворванняў.

Паводле Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, у 23 краінах сярод прычын смерці анкалогія выйшла на першае месца, апярэдзіўшы сардэчна-сасудзістую паталогію.

– Гэта не значыць, што ёсць нейкая эпідэмія, каментуе Юры Панятоўскі. – Гэта заканамерны працэс. Мы пачалі жыць даўжэй. Чым даўжэй жыве чалавек, тым большая верагоднасць захварэць на анкалогію. Плюс адгукаецца экалогія.

Прытым, што анкалогія стала адной з галоўных прычын смерці, часта пацыенты застаюцца са сваёй хваробай сам-насам, разам са сваімі пакутамі, якія перацякаюць і на іх блізкіх.

– Калі жанчына зацяжарала, мы ставім яе на ўлік, рэгулярна бяром аналізы, пылінкі здзімаем, – распавядае галоўны доктар Ільянскай бальніцы. – Нарадзілася дзіця. Першы год яно як святое, медагляды штомесяц. У дзіцячым узросце таксама рэгулярныя агляды, аздараўленне. Чалавек вырас. Усеагульная дыспансерызацыя, ранняе выяўленне хвароб, прафілактыка. Захварэў – лечым. А як толькі апошняя стадыя раку – усе ўмылі рукі. Так быць не павінна. Вось мы і займаемся тым, каб такія хворыя атрымлівалі належны догляд.

### Як працуе аддзяленне

Паказанні для паліятыўнай дапамогі – анказахворванні чацвертай стадыі. Апошняя стадыя з сардэчнай, пячоначнай, ныркавай або дыхальнай недастатковасцю. Магчыма, у будучыні пашыраць спіс захворванняў, пры якіх рэкамендуюць паліятыўную дапамогу.

Існуе як амбулаторная дапамога, так і стацыянарная.

Стацыянарных аддзяленняў такога профілю ў Мінскай вобласці два. Адно ў Капыльскім раёне, другое – у Ільянскай участковай бальніцы. Да Ільянскай адносяцца 11 раёнаў, сярод якіх Валожынскі, Маладзечанскі, Мядзельскі і Вілейскі.

Аддзяленне паліятыўнага лячэння займае крыло, якое назвалі хоспісам. Разлічанае на 25 ложкаў. У штаце на змену дзве санітаркі, працэдурная і перавязачная медсёстры, а таксама загадчык аддзялення, тэрапеўт і анколаг. Прадугледжаны псіхолаг. Сёння ў штаце ўкамплектаваны сярэдні і малодшы персанал на 100%, а дактары працуюць па сумяшчэнні. На сёння – 13 пацыентаў.

У кожным раёне замацаваны спецыяліст, які займаецца паліятыўнай дапамогай амбулаторна. У Маладзечне ёсць міжраённы кабінет паліятыўнай медапамогі, які ўзначальвае **Віктар Чарных**.

### Дапамагаюць не толькі хворым, але і іх сем'ям

Аддзяленне не абмяжоўваецца толькі абязбольваннем. Ёсць пацыенты, якім цяжка есці. Але каб забяспечыць неабходнае спажыванне, прадугледжваюць, напрыклад, харчаванне праз зонд. Медыкі здымаюць дадатковае ўскладненне. Калі анкалогія з рвотай, мусяць зняць рвоту. Калі хворы знясілены – трэба вярнуць страту спажыўных рэчываў.

Яшчэ некалькі год таму да хворага на анкалогію прыязджала “хуткая дапамога”, каб абязболіць. Цяпер ёсць лекі падоўжанага дзеяння. Гэта і таблеткі, і тэрапеўтычныя сістэмы, якія выглядаюць як пластыр. Дактары вылічваюць патрэбу ў прэпараце. У аддзяленні назіраюць, як уздзейнічаюць лекі.

Схема працы такая: прынялі чалавека, адпрацавалі схему абязбольвання для яго і перадалі калегам з дакладным разлікам дозы. Напрыклад, трэба пэўны пластыр, які варта клеіць на плячо на трое сутак, а пасля мяняць. І ўжо не трэба шпрыцы, не прывязаныя да “хуткай”.

Тут дапамагаюць не толькі пацыентам, але і іх блізкім – як даглядаць, перасцілаць, правесці прафілактыку пролежняў, прыклеіць пластыр.

– Гэта няпраўда, што да нас кладуць людзей, каб яны паміралі, – падсумоўвае доктар Панятоўскі. – Да нас кладуць, каб аблегчыць пакуты.

Ільянскія медыкі сустракаліся з тым, што нават не ўсе калегі ведаюць пра аддзяленне. Калі вашым блізкім трэба паліятыўная дапамога, звяртайцеся па тэлефоне: **(801771) 76-4-75, Юры Лявонавіч Панятоўскі**.

Зоя ХРУЦКАЯ.


Фота rus-img.com.

САКРЭТЫ ЖЫЦЦЁВАГА ПОСПЕХУ

# Усё пачынаецца з мары!

*Табе ніколі не даецца жаданне без таго, каб не даваліся сілы яго здзейсніць. Праўда, магчыма, для гэтага табе давядзецца папрацаваць.* Рычард Бах.

**Прывітанне, дарагі сябра! Сёння мы распачынаем новую рубрыку – “Сакрэты жыццёвага поспеху”.**

Перш-наперш віншую вас з тым, што вы – унікальны, эксклюзіўны і індывідуальны!

Кожны чалавек створаны толькі ў адным экзэмпляры на гэтай вялікай Зямлі. Няма аднолькавых людзей, нават калі яны блізняты. Мы ўсе розныя! І жаданні, мары і мэты таксама розныя.

Давайце ўзгадаем дзяцінства і памарым ці ўспомнім нашы дзіцячыя мары. У вас жа была мара? Праўда? Магчыма, нават і не адна.

Мы выбралі тую спецыяльнасць, пра якую марылі ў дзяцінстве ці навязаную роднымі або сябрамі? Вядома, блізкія раяць з самымі лепшымі памкненнямі, але абапіраюцца на свой жыццёвы досвед і патэнцыял. А вашу мару лічаць непрэстыжнай, неактуальнай, неразумнай. Магчыма, хтосьці ўжо паспрабаваў яе здзейсніць, але не атрымалася, таму і вас адгаворваюць.

Але ж вы зусім іншы ці іншая, праўда? І вы хочаце чагосьці свайго.

Я толькі цяпер зразумела, як жа цудоўна, калі тое, чаго нам хочацца, здзяйсняецца!

У маім жыцці было шмат настаўнікаў, прычым не толькі школьных. Менавіта яшчэ ў школе я марыла быць выкладчыцай. Хацела, каб быў уласны офіс, а партнёры сталі сябрамі. Але сярод маіх сваякоў ніхто не займаў кіруючыя пасады. Адкуль узяць упэўненасць, што гэта атрымаецца ў мяне?

Думаючы пра гэта, убачыла адзін артыкул. У ім распавядалі пра тое, што калі вельмі моцна хацець, то гэта здзейсніцца абавязкова. Галоўнае, верыць і дзейнічаць, дзейнічаць, дзейнічаць.

Я паверыла. І лёс адразу ж пачаў прыносіць сюрпрызы, падарункі і іспыты. Я працягвала ісці далей і дзейнічаць. І толькі пасля зразумела, што, каб дабіцца чагосьці большага, неабходна большым напаўняць сябе. Мяняць сябе, свае думкі і дзеянні.

Мне сустракаліся людзі, якія адной фразай натхнялі на дасягненні. Дзякуючы такім сустрэчам я сёння маю і выдатны офіс, і самых лепшых сяброў, і любімую сям'ю.

Але наўрад ці ўсё атрымалася б так, як я марыла, без наступных дзеянняў.

### Што рабіць, каб здзейснілася мара:

1. Галоўнае – марыць! Усё пачынаецца з мары.
2. Перадўтварыце мару ў самае запаветнае жаданне.
3. Падзяліце сваё жаданне на канкрэтныя, прамежкавыя мэты па часе (дні, месяцы, гады).
4. Свае канкрэтныя і прамежкавыя мэты пераводзьце ў дакладны план дзеянняў.
5. А цяпер самае лёгкае – пачынайце дзейнічаць, дзейнічаць, дзейнічаць!

І якія б складанасці вас не напаткалі, памятайце – гэта толькі задачы жыцця, якія трэба вырашыць.

Марце, жывіце і дзейнічайце!

**Чакаю вашых водгукаў.**

**Чытайце ў наступным нумары: як усё паспець?**


Юлія ФІЛІПОВІЧ, бізнес-трэнер

# Купайцеся каля пляжаў, там бяспечна

МАЛАДЗЕЧНА

**Як толькі ўсталюецца добрае надвор'е, адкрывайце купальны сезон.**

Маладзечанскі райвыканкам зацвердзіў пяць месцаў для купання і масавага адпачынку на вадаёмах раёна.

Такіх зон пяць:

1 – вадаём санаторыя "Сасновы Бор",

2 – каля Хажова, замацаваны за таварыствам "Цвецень",

3 – каля дома адпачынку "Алеся",

4 – у пасёлку Беразінскае,

5 – "Удранка" ў Радашкавічах.

Гэтыя пляжы і месцы для купання падрыхтавалі да сезона, навялі на іх парадак. Якасць вады ў вадаёмах адпавядае гігіенічным нарматывам.

Пры ўстойлівым цёплым надвор'і, калі вадаёмы прагрэюцца да 18º С, можна купацца.

Але не купайцеся там, дзе не дазволена! Напрыклад, вада ў рацэ Уша не адпавядае нормам па мікрабіялагічных паказчыках.

**Міхаіл МІХАЛЕВІЧ,**
**доктар-гігіеніст, загадчык аддзялення камунальнай гігіены Маладзечанскага занальнага ЦГЭ.**




Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**Каб адпачынак быў у радасць і без непрыемных наступстваў, адпачывайце толькі ў зацверджаных месцах. На фота – возера Мястра.**

# Пачынаецца купальны сезон – нагадваем правілы бяспекі

МАЛАДЗЕЧНА

**Да пачатку лета засталіся лічаныя дні. Людзей чакае спякота, ратавацца ад якой яны будуць на вадаёмах і рэках.**

Перад купальным сезонам кіраўнік Маладзечанскай раённай арганізацыі таварыства выратавання на водах **Аляксандр Семашкевіч** папярэджвае, што купанне бывае небяспечным.

Летась на Маладзечаншчыне патанулі чатыры маладзечанцы і сем жыхароў з раёна. Тры з іх – падчас купання ў вадаёме, чатыры – ад падзення ў ваду, два – у час рыбалкі, два – пры іншых абставінах.

– Асноўная прычына здарэнняў на вадзе – знаходжанне людзей у нецвярозым стане, ігнараванне мер бяспекі, – расказвае Аляксандр Семашкевіч. – Летась у красавіку ў басейне саўны патануў 31-гадовы мужчына. 72-гадовы пенсіянер пайшоў на сажалку паіць карову і не вярнуўся. Яго знайшлі на наступны дзень у сажалцы на глыбіні паўметра.

## Простыя, але дзейсныя правілы паводзінаў на вадзе

Нельга купацца ў небяспечных і забароненых месцах: побач з гідрапабудовамі, у суднаходных месцах, месцах са складаным рэльефам дна, з абрывістымі берагамі, хуткім цячэннем і вірамі.

Калі вы купаецеся ў незнаёмым месцы, чалавек, які добра плавае, павінны даследаваць дно. Яно павінна быць без ям, карчоў, вострых падводных камянёў, шкла. Не купайцеся ў месцах, зарослых водарасцямі, у іх можна заблытацца.

Перш чым акунуцца, змачыце галаву вадой. Калі не хочаце мачыць валасы, уваходзьце паступова. Скачкі ў ваду могуць прывесці да спазмаў сасудаў, у тым ліку галаўнога мозга і сэрца, таму не дапускайце рэзкіх перападаў тэмпературы. І з-за гэтага не знаходзьцеся доўга ў вадзе.

**Не заходзьце ў ваду, калі дрэнна сябе адчуваеце альбо ў нецвярозым стане. Не пакідайце дзяцей побач з вадой без нагляду.**

Не выкарыстоўвайце для купання не прызначаныя для гэтага рэчы: надзімаеныя матрацы і аўтамабільныя камеры, дошкі, іншае. Выкарыстоўвайце купальныя сродкі па прызначэнні.

Не падплывайце блізка да суднаў, лодак і іншых плавальных сродкаў.

Не гуляйце ў вадзе ў гульні, звязаныя з ныраннем і захопліваннем купальшчыка.

Не падавайце лжывага сігнала аб дапамозе.

Калі вы трапілі ў моцнае цячэнне, не плывіце супраць яго, паспрабуйце пры дапамозе яго наблізіцца да берага.

Не заплывайце далёка ад берага.

Калі вы трапілі ў вір, не губляйцеся, набярыце больш паветра, нырніце па цячэнні і ўсплывіце на паверхню.

Пры сутаргах змяніце спосаб плавання, каб зменшыць нагрузку на зведзеныя мышцы. Карысна мець пры сабе шпільку, укалоўшы якой можна пазбавіцца ад сутаргі.

Непажадана купацца раней, чым праз паўтары-дзве гадзіны пасля прыёму ежы.

**Аддзел інфармацыі.**

# Як бюджэтна адпачыць летам

**Чым бліжэй лета, тым больш думак аб адпачынку. Але як зладзіць сабе прыгоду з мінімальнымі выдаткамі?**

"Рэгіянальная газета" прыдумала для сваіх чытачоў некалькі варыянтаў бюджэтнага адпачынку.

## Бясплатны пракат турыстычнага рыштунку

Турыстычны рыштунак накшталт палатак і спальнікаў можна ўзяць цалкам бясплатна на сайце stuffmates.com. Людзі, натхнёныя ідэяй сумеснага спажывання, ахвотна дзеляцца сваімі рэчамі, якімі яны рэдка карыстаюцца. Так вы можаце сабраць усю неабходную экіпіроўку і вярнуць яе пасля свайго падарожжа, не зрабіўшы ніякіх выдаткаў. Праўда, большасць "донараў" знаходзяцца ў Мінску, але мы спадзяёмся, што нашы чытачы таксама падключацца да гэтага руху.

## Водныя падарожжы

Цяпер, калі ў вас на руках ёсць неабходны рыштунак, можна адпраўляцца даследаваць прыроду Беларусі. Мы раім узяць напракат байдарку, лодку або каноэ.

У інтэрнэце можна знайсці варыянты ад 220 тысяч да 700 тысяч рублёў за суткі. Некаторыя фірмы могуць даставіць судны ў любы рэгіён Беларусі.

Мы звярнуліся да **Паўла Пыхціна**, які штогод сплаўляецца па беларускіх вадаёмах:

– У нас няма горных рэк і занадта стромкіх плыняў, таму ніякіх асаблівых навыкаў для кіравання не трэба. Смела бярыце байдарку і адпраўляйцеся ў прыгоду! Кіраваць байдаркай вельмі проста – вы зразумееце гэта літаральна праз дзесяць хвілін пасля адплыцця. Будзьце акуратныя на паваротах і ніколі не плавайце бокам. Усе каштоўнасці лепш за ўсё пакласці ў гермамех, а яго – у заплечнік. Тады вашы каштоўныя рэчы не прамокнуць. А калі будзеце рабіць стаянку, то выцягніце байдарку на бераг і пераварніце. Уся вада, якая ў любым выпадку патрапіць унутр, выцечэ і высахне. На ўсялякі выпадак лепш яшчэ і прывязаць судна да дрэва.

## Будуем плыт

Калі ж вы сумняваецеся ў сваіх навыках веславання, то можна пабудаваць плыт і не спяшаючыся сплаўляцца на ім па плыні. Умельцы раяць рабіць яго з пластыкавых бутэлек.

Для пабудовы плыта спатрэбіцца шмат пластыкавых бутэлек ёмістасцю 1,5 літра, некалькі дошак, вяроўкі і вялікія мяшкі. Яны могуць быць ад цукру або ад мукі.

У кожны з мяхоў можна пакласці каля 30 бутэлек. Размяшчаць іх варта вертыкальна ў два рады. Колькасць патрэбных мяшкоў вызначайце самі, улічваючы, наколькі вялікі плыт вам патрэбны.

Затым вырабіце з дошак каркас для плыта. Каб змацаваць паміж сабой дошкі, выкарыстоўвайце балты М10-М12, дзякуючы якім вы забяспечыце прастату і надзейнасць канструкцыі. Далей вам неабходна замацаваць мяхі з бутэлькамі на сабраным драўляным каркасе. Выкарыстоўвайце для гэтага звычайную моцную пяньковую вяроўку. Мяхі варта размяшчаць непасрэдна пад каркасам.

Умацаваўшы мяшкі з бутэлькамі на каркасе, вы можаце лічыць, што плыт сабраны. Такі плыт можа спакойна вытрымаць 5-8 чалавек.

Цяпер вы можаце адпраўляцца ў займальнае плаванне!

## А можа, у Мінск?

А калі вы вырашыце замест прыроды адправіцца на прагулку ў сталіцу Беларусі, то рэкамендуем узяць напракат ровар. Акрамя звычайных велапракатаў, ёсць і некалькі бясплатных. Так, кампанія А100 ўжо другі год праводзіць акцыю "Веласіпед за "дзякуй", дзякуючы якой любы ахвотны можа ўзяць ровар на дзве гадзіны.

Сёлета акцыя будзе доўжыцца ад 11 ліпеня да 31 жніўня. Таксама ў бліжэйшы час стартуе кампанія "Добры ровар" пры падтрымцы Мінскага веласіпеднага таварыства. У рамках гэтай акцыі жыхары і госці Мінска змогуць браць ровары напракат цалкам бясплатна. Падрабязнасці можна даведацца на сайце bike.org.by.

**Таццяна КАПІТОНАВА,**
**Мінск.**

**Даведка "РГ".** Байдарка – маламернае лёгкае судна, для кіравання якім выкарыстоўваецца двулопаснае вясло. Весляры сядзяць адзін за адным, тварам у бок руху.

Каноэ – маламерная лодка, для кіравання якой выкарыстоўваецца аднalопаснае вясло.

ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

# Футбалісты баяцца трэнера Гармазу

## І саромеюцца размоў пра першы пацалунак

МАЛАДЗЕЧНА

**Ці ведаеце вы, што сярэдні ўзрост гульцоў футбольнай каманды "Маладзечна ДЮСШ-4" складае 24 гады?**




Фота Настасі РОЎДЫ

Гульцы каманды "Маладзечна ДЮСШ-4" Уладзіслаў Фядотаў, злева, і Сяргей Дараховіч. Самую каштоўную параду ад трэнера Аляксандра Гармазы: "Працаваць, трэніравацца і быць арыентаваным на вынік" атрымалі абое, але з розніцай у 20 гадоў.

А гэта значыць, што ў камандзе гуляюць як 18-гадовыя гульцы, **Уладзіслаў Фядотаў**, так і 35-гадовыя – **Сяргей Дараховіч.**

"Рэгіянальная газета" сустрэлася з двума гэтымі гульцамі, паміж якімі 17-гадовая розніца ва ўзросце, каб расказаць вам і зразумець самім, як у адной камандзе ўжываюцца такія розныя людзі. Чым яны захапляюцца, што іх натхняе?

Калі мы задалі першае пытанне, Уладзіслаў адказаў:

– А хай першы Сяргей Іванавіч адказвае...

**– Вы старэйшых па імю па бацьку называеце заўсёды?**

– Так, нават падчас гульні.

– Хаця атмасфера ў камандзе сяброўская, – дадае Сяргей. – Нават чацвёра нашых мінчан заўважаюць, што галоўнае ў камандзе – падтрымка.

Першае пытанне, вядома, было пра футбол. Першая футбольная каманда, якая захапіла нашых герояў настолькі, што яны вырашылі звязаць свой лёс з футболам, для Уладзіслава Фядотава была "Арсенал", для Сяргея Дараховіча... "Маладзечна". Тая самая каманда, якая грымела на ўвесь горад у 90-х гадах:

– Я памятаю той час, калі на стадыён прыходзіла столькі людзей, што не проста глядзелі стоячы, а глядзелі гульню седзячы на даху басейна, – распавядае Сяргей.

Сяргей Дараховіч пачынаў займацца ў Аляксандра Гармазы ў 1996 годзе, Уладзіслаў – сёлета.

**– Ці змяніўся Аляксандр Гармаза за гэтыя 20 гадоў?**

– Не, усё такі ж фанатык футбола, – смяецца Сяргей. – У мяне да Аляксандра Пятровіча быў іншы трэнер. Ён прыязджаў на трэніроўку, даваў нам мячык і з'язджаў на паўтары гадзіны таксаваць. Праз паўтары гадзіны вяртаўся і забіраў мячык. З Гармазой такое не пройдзе. Ён прымусіць выкласціся па поўнай. Я думаю, што і цяпер ніхто нават з дарослых гульцоў не асмеліўся б патэлефанаваць Пятровічу і сказаць, што прапускае трэніроўку. У мяне цяпер і сын у Аляксандра Пятровіча займаецца.



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
044-566-26-99 (працоўны)

### Пяць пытанняў пра футбол

| Пытанні да футбалістаў | Уладзіслаў Фядотаў | Сяргей Дараховіч |
|---|---|---|
| Ці памятаеце свой першы гол? | У мінулым годзе на абласным чэмпіянаце, калі гулялі супраць каманды са Стоўбцаў. Я тады забіў першы гол, а каманда выйграла з лікам 4:0 | Гэта было вельмі даўно, я не памятаю. Магчыма, калі ў 1996 годзе гуляў за вобласць. |
| У дзень гульні вы звычайна... | Паводжу сябе, як звычайна. Ну, магчыма, толькі больш размаўляю з іншымі, так хваляванне стараюся пераадолець | Калі гуляў у вышэйшай лізе, першай, настройваўся інакш. Цяпер гэта настолькі звычайна і штодзённа. |
| З кім у камандзе сябруеце больш за іншых? | З Антонам Галгоўскім. Мы разам пачыналі займацца футболам і сябруем ужо гадоў пяць. | Канешне, з больш дарослымі гульцамі. З Мікалаем Татуном, Віталем Макрыцкім, Сашам Альховікам, з Антонам Шчэрбам. |
| Ці маеце якую-небудзь мянушку? | У камандзе называюць Федзем | Ужо называюць Іванычам. |
| Калі б не сталі займацца футболам, які б спорт выбралі? | Падабаецца хакей, але не глядзець, а гуляць. | Не бачу сябе нідзе, акрамя футбола. |

### І тры пра асабістае

| Пытанні да футбалістаў | Уладзіслаў Фядотаў | Сяргей Дараховіч |
|---|---|---|
| Ці памятаеце свой першы пацалунак? | Не, не памятаю. Ці, па праўдзе сказаць, я гэта ўтойваю. | Не, не памятаю. Але са сваёй жонкай Алесяй мы сябруем яшчэ са школы. Хутчэй за ўсё першы пацалунак быў з ёй. |
| Самы прыемны падарунак, які атрымлівалі ў жыцці? | Напэўна, усё ж ноўтбук на дзень нараджэння. | Нараджэнне сына Андрэя. |
| Ваш ідэал жанчыны? | Я не думаў яшчэ пра гэта. | Жонка Алеся. |

ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА

## Смаргонь" узнялася на другое месца

СМАРГОНЬ

Тры пенальці і пяць галоў. Відовішчны выдаўся матч у Светлагорску паміж "Хімікам" і "Смаргонню" 24 мая.

На 74-й хвіліне "Смаргонь" вяла 3:0. Галы забілі **Сяргей Крот, Аляксандр Талканіца** і **Дзмітры Жданок.**

А потым за тры хвіліны ў вароты смаргонцаў прызначылі два пенальці. Галоўны трэнер "Смаргоні" **Мікалай Рындзюк** лічыць, што гэта былі дзве памылкі суддзі. Тым не менш, перавага смаргонцаў скарацілася да мінімальнай – 3:2. Аднак больш галоў у матчы не было.

Пасля гэтай гульні "Смаргонь" узнялася на другое месца.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

НАВІНЫ

## У турзлёце перамаглі нарачанцы

МЯДЗЕЛ

15 і 16 мая на беразе возера Вялікія Швакшты прайшоў раённы злёт юных турыстаў Мядзельшчыны.

Прынялі ўдзел каманды з усіх 15 устаноў адукацыі раёна. Каля 170 вучняў спаборнічалі ў спартыўным арыентаванні і тэхніцы пеша-горнага турызму. Таксама прайшлі конкурсы на лепшую патрыятычную песню, газет і турысцкага быту.

Пераможцамі ў асабовых спаборніцтвах па спартыўным арыентаванні ў малодшай узроставай групе сталі: **Дар'я Карбалевіч** (Нарацкая сярэдняя школа №1) і **Валянцін Дземашкевіч** (Крывіцкі сад-школа).

У сярэдняй групе найлепшыя вынікі ў **Дар'і Шахрай** з Нарацкай СШ №1 і **Яўгена Азаркі** са Старагабскай школы-сада. У старэйшай узроставай групе перамаглі **Юлія Пацяюн** з гімназіі-інтэрната Мядзела і **Мікіта Куцкевіч** з Нарацкай СШ №1.

Першае месца ў злёце заняла каманда Нарацкай СШ №1, другое – на рахунку вучняў Крывіцкага сада-школы. Трэцімі былі прадстаўнікі гімназіі-інтэрната Мядзела.

Каманды-прызёры ўзнагародзілі кубкамі і дыпломамі. Пра ўсё гэта расказала метадыст цэнтра турызму раёна **Людміла Варабей.**

## ДЮСШ-4 забіла пяць галоў, "Вілія" выйшла на трэцяе месца

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

Пасля двух забітых мячоў у двух матчах расшчадрылася на галы ДЮСШ-4 з Маладзечна. У трэцім туры чэмпіянату вобласці па футболе 24 мая маладзечанцы дома разграмілі ФК "Нясвіж" 5:0. Два галы з пяці на рахунку **Сяргея Лавора.**

Яшчэ дзве каманды з нашага рэгіёна згулялі паміж сабой. "Забудова-Буд" прымала "Вілію".

– Наша каманда гуляла ад абароны, удаваліся добрыя контратакі, – расказаў прадстаўнік "Віліі" **Алег Гулевіч**. – Выдатны матч правёў варатар **Павел Лявошка**. У многім дзякуючы яму і перамаглі.

Віляйчане атрымалі гасцявую перамогу над камандай з Чысці 3:1. Двума галамі ў пераможцаў адзначыўся **Аляксандр Грыхуцік.**

Пасля трох тураў віляйчане займаюць трэцяе месца ў турнірнай табліцы. "Забудова-Буд" – на пятым, ДЮСШ-4 ідзе на шостым.

Хоць у гэтым туры **Аляксандр Працкевіч** з "Забудовы-Буд" не забіў, але з пяццю галамі ён застаўся лепшым бамбардзірам чэмпіянату.

## Чвэрцьфінал перанесены

ВІЛЕЙКА

У чвэрцьфіналах турніру па міні-футболе ў Вілейцы сенсацый не адбылося, расказаў старшыня раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан.**

У выніку ў паўфінале "Буддэталі" згуляюць з "Юніерам". "Рубін" яшчэ чакае саперніка, бо чвэрцьфінал паміж "Першым Беларускім" і "Мехатронікай" перанесены.

## На Вілейшчыне праходзіў марафон "RSport Налібокі'15"

ВІЛЕЙКА

Праз вёску Будзішча на Вілейшчыне 23 мая то прабягалі спартсмены, то ехалі на роварах.

Гэта былі ўдзельнікі марафону "RSport Налібокі'15" – найбуйнейших аматарскіх спаборніцтваў у Беларусі. Праводзяцца яны для веласіпедыстаў, аматараў бегу, воднікаў і мультыспартсменаў. Для апошніх дыстанцыя складаецца з бегавога, воднага, вела- і вяровачнага этапаў.

Маршруты марафону праходзілі па Вілейскім і Лагойскім раёнах. Базавы лагер размяшчаўся ля Вілейскага вадасховішча.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ ВІЛЕЙШЧЫНЫ



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Дзятва ладзіць гульні падчас сустрэчы ураджэнцаў вёскі Будзішча.

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | 4 | | | | | | | |
| | | 9 | | | | 7 | 8 | |
| | 5 | | 6 | | 9 | | | |
| | | 4 | 9 | | | 1 | 7 | |
| | 8 | | | 3 | | | 6 | |
| | 1 | 6 | | | 8 | 9 | | |
| | | | 2 | | 1 | | 9 | |
| | 7 | 5 | | | | 2 | | |
| | | | | | | | 1 | 7 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## РЭПЕРТУАРЫ

### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна



*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, прыгоды "**Суперкаманда**" (3D, Іспанія, Аргенціна, 2015)
30 мая – у 15:00 Цана білета: 30 000 рублёў

Баявік, трылер "**Звар'яцелы Макс: Дарогі лютасці**" (3D, Аўстралія, 2015, з 16 год)
30 мая – у 17:20
31 мая – у 17:40
2 чэрвеня – у 21:30 (55 000 рублёў)

Камедыя "**Прыстойныя людзі**" (Расія, 2015, з 16 год)
29 мая – у 20:30 (45 000 рублёў)
31 мая – у 22:30 (50 000 рублёў)
3 чэрвеня – у 19:50 (45 000 рублёў)

Фантастыка, дэтэктыў "**Зямля будучыні**" (ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
29 мая – у 18:00
30 мая – у 19:50
31 мая – у 15:00
1 чэрвеня – у 19:00
3 чэрвеня – у 17:20 (45 000 рублёў)

Трылер, баявік "**Разлом Сан-Андэрс**" (3D, ЗША, 2015, з 16 год)
29, 30 мая – у 22:20 (60 000 рублёў)
31 мая – у 20:00
1 чэрвеня – у 21:40
2, 4 чэрвеня – у 19:00
3 чэрвеня – у 21:40 (55 000 рублёў)

Прэм'ера! Анімацыя "**Захавальнік Месяца**" (3D, Францыя, 2015, без узроставых абмежаванняў)
30, 31 мая – у 12:30
Цана білета: 30 000 рублёў

Прэм'ера! Анімацыя, прыгоды "**Пінгвіня Пораро: Вялікія гонкі**" (3D, Паўднёвая Карэя, Кітай, 2015)
4 чэрвеня – у 17:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя "**Дабл трабл**" (Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
4 чэрвеня – у 21:30
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Незвычайныя прыгоды Карыка і Валі**" (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
29, 31 мая – у 17:30
30 мая – у 17:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**КіноДзяцінства. Цішэй, бабуля спіць**" (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
30 мая – у 15:30
31 мая – у 16:00 Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**КіноДзяцінства. Маша і Мядзведзь: Героямі не нараджаюцца. Новыя эпізоды**" (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
2 чэрвеня – у 15:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**Прыгоды мышаняці**" (Перу, 2013, без узроставых абмежаванняў)
3 чэрвеня – у 15:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Анімацыя "**КіноДзяцінства. Маша і Мядзведзь: Складана быць маленькім**" (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
4 чэрвеня – у 15:00

Цана білета: 12 000 рублёў

Камедыя "**Падарунак з характарам**"(Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
1 чэрвеня – у 15:00 (15 000 рублёў)

Дакументальны фільм "**Спакушэнне д'ябла**" (Беларусь, 2015, з 16 год)
29 мая – у 19:00
30 мая – у 21:00 Цана білета: 3 000 рублёў

Фэнтэзі, баявік, жахі "**Ваўкі**" (Канада, Францыя, 2013, з 16 год)
30 мая – у 18:30 (35 000 рублёў)

Камедыя "**Вось дык сяброўка**" (Італія, 2014, з 16 год)
29 мая – у 19:30
30 мая, 1 чэрвеня – у 21:30
31 мая – у 19:00 Цана білета: 35 000 рублёў

Драма, крымінал "**Ровер**" (Аўстралія, 2013, з 16 год)
29 мая – у 21:30
31 мая – у 21:00 Цана білета: 35 000 рублёў



Фота kinopoisk.ru

Кадр з фільма "Ровер".

Прэм'ера! Меладрама "**Усё, акрамя кахання**" (Аўстралія, 2012, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
2 чэрвеня – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Прыгоды "**Мае афрыканскія прыгоды**" (Данія, 2013, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
3 чэрвеня – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя "**Прывід**" (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
4 чэрвеня – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл.: **8(0176) 77-15-92**, **77-06-30**

### Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Фантастыка, драма "**Пасвечаны**" (ЗША, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
29 мая – у 17:30
30, 31 мая – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя "**Дзень дурня**" (Расія, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
29 мая – у 20:00
30, 31 мая – у 20:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Уцёкі з планеты Зямля**" (ЗША, без узроставых абмежаванняў)
30, 31 мая – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Трылер, баявік "**Звар'яцелы Макс: Дарога лютасці**" (3D, Аўстралія, з 16 год)
29 мая – у 18:00
30, 31 мая – у 16:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Фантастыка, дэтэктыў "**Зямля будучыні**" (2D, ЗША, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
29 мая – у 20:30
30 мая – у 19:00
31 мая – у 21:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Анімацыя, камедыя "**Суперкаманда**" (3D, Іспанія, Аргенціна, без узроставых абмежаванняў)
30, 31 мая – у 12:30
Цана білета: 30 000 рублёў

Анімацыя, камедыя "**Баранчык Шон**" (2D, Вялікабрытанія, Францыя, без узроставых абмежаванняў)
30, 31 мая – у 14:30
17 мая – у 12:30
Цана білета: 25 000 рублёў

Трылер, баявік "Разлом Сан-Андрэас" (2D, ЗША, з 16 год)
30 мая – у 21:30
31 мая – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Тэл.: **8(01771) 5-68-59**

## ГАРАСКОП
## 29 МАЯ-4 ЧЭРВЕНЯ

**Авен.** Калі ў вас вялікі аб'ём работы, і гэта тэрмінова, адшукайце ўнутраныя рэзервы. Як толькі вы пераключыцеся, то адразу ж заўважыце, як у вас адкрываецца другое дыханне і з'яўляюцца новыя сілы.

**Цялец.** І няхай навакольныя коса, з асцярогай паглядаюць на вашу не да месца ўсмешку. Калі вы задаволеныя і шчаслівыя, свет пачынае трансфармавацца, міжвольна прагінаючыся пад вашым пазітыўным напорам. Навіны не засмуцяць, а рассмешаць. Нечаканы дождж стане падставай заглянуць ва ўтульнае кафэ. А той, хто здаваўся вам злым, нечакана ўсміхнецца ў адказ на ваш жарт.

**Блізняты.** Давайце дзецям больш свабоды, няхай робяць памылкі. Не завальвайце іх парадамі. Паважайце ў дзіцяці асобу.

**Рак.** Калі ў вас дрэнны настрой – ешце цытрусавыя, гуляйце па сонейку, з'ешце кавалачак шакаладу. Абавязкова высыпайцеся і не перагружайце сябе сумнымі справамі.

**Леў.** Будзьце адкрытыя і шчырыя – гэта здорава, гэта лекі. І гэта дае магчымасць людзям верыць вам і дзяліцца з вамі сваімі эмоцыямі, а вы можаце дзяліцца з імі ў адказ.

**Дзева.** Не замыкайцеся ў сабе. Прымайце дапамогу і самі дапамагайце.

**Шалі.** Каб ваша жыццё склалася найлепшым чынам, ніколі не здавайцеся, не апускайце рукі, працуйце над сваім жыццём, сваім целам, развіццём мовы.

**Скарпіён.** Не стварайце вобраз іншага чалавека з мэтай уразіць некага, бо гэта сыграе з вамі злы жарт. Людзі бачаць вас сапраўднага праз вобраз, і гэта іх адштурхоўвае.

**Стралец.** Не адмаўляйце магчымасці пазнання аб'ектыўнага свету і яго заканамернасцяў, не думайце, што Богу патрэбныя нашы хвалы. Ён хоча толькі аднаго – каб мы сталі лепшымі.

**Казярог.** Вас наведае фенаменальная колькасць каштоўных думак і геніяльных ідэй. Некаторыя запішыце – мо спатрэбяцца.

**Вадалей.** Калі мастак піша карціну, ён павінны адысці на пару крокаў, каб акінуць яе адным поглядам. Так і вам трэба. Магчыма, у карціне вашага жыцця не хапае нейкіх важных штрыхоў.

**Рыбы.** Вам трэба добра ўсвядоміць правіла трох Н – няма нічога немагчымага.

Марыя УРБАНОВІЧ.

Рэгіянальная газета. Rh.by
ТэлетыДзень 27
ISSN 1991-7155
9 771991 715006

Камент-эксперт
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, пасылаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на Rh.by

## ● НАДВОР'Е

**30 мая, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +8 / +17 | | +9 / +19 | | +12 / +19 | | +8 / +17 | |
| | 739 | ↓ 4 | 739 | ↘ 4 | 743 | ↓ 2 | 745 | ↘ 4 |
| Вільня | +9 / +16 | | +9 / +20 | | +9 / +12 | | +6 / +16 | |
| | 749 | → 3 | 747 | ↑ 4 | 751 | → 4 | 754 | → 4 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 4.47
Захад 21.33
Даўжыня дня 16.43

Усход 17.45
Захад 3.33
Квадра 2

| Горад | Ноччу | Днём | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|---|
| Віцебск | +12 | +17 | 745 | ↓ 5 |
| Гродна | +11 | +20 | 746 | ↗ 5 |
| Мінск | +9 | +19 | 739 | ↘ 4 |
| Магілёў | +12 | +17 | 743 | ↓ 6 |
| Гомель | +10 | +20 | 747 | ↓ 3 |
| Брэст | +11 | +19 | 747 | ↗ 6 |

### ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**АШМЯНЫ**

Мінімальная тэмпература +0,9°С у 1990 годзе
Максімальная тэмпература +27,1 °С у 2007 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 13,3 мм у 2000 годзе
Назіранні за 38 год. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

● Як правільна пісаць на рускай мове назвы беларускіх вуліц? "Будавников" ці "Строителей", "Чигуночная" альбо "Железнодорожная"? Разбіраемся ў наступным нумары.

## ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Як вы святкавалі выпускны?



**Арцём Алянцаў, навучэнец:**
– Сёлета заканчваю каледж, таму якраз рыхтуюся да выпускнога. Хочацца, каб гэта мерапрыемства запомнілася на ўсё жыццё. Але перш чым святкаваць, трэба добра абараніць дыплом, каб быў настрой святкаваць.



**Юлія Беланові́ч, навучэнка:**
– Школьны выпускны быў два гады таму, хваляваласяперад ім. Выбірала сукенку, рабіла прычоску. Школьны выпускны бывае толькі раз у жыцці, таму хацелася, каб усё прайшло добра.



**Віялета Бернюкевіч, навучэнка:**
– Хацелася на выпускным быць адметнай, таму выбрала сукенку, якая пасавала мне, зрабіла прычоску. У школе была ўрачыстасць, на якой прысутнічалі і бацькі. Выпускны – значная падзея, якая запамінаецца на ўсё жыццё.



**Аляксей Чуйко, электрагазазваршчык:**
– У школе не адзначаў выпускны. Толькі ў каледжы. Сабраліся ўсе, з кім вучыўся. Гулялі, весяліліся. Усё прайшло, як звычайна на выпускных, не думаю, што мы нечым адметным вызначыліся.



**Юлія Каспяровіч, школьніца:**
– Пакуль вучуся ў пятым класе, таму не задумвалася, як і дзе буду адзначаць выпускны. У старэйшых сяброў таксама не цікавілася, як адбываецца ўрачыстасць. Да гэтага яшчэ шмат часу.



**Аляксандра Унучак, пенсіянерка:**
– Мой выпускны быў крышачку азмрочаны. Калі мае аднакласнікі здавалі экзамен па англійскай мове, я хварэла. Таму іспыт прызначылі на наступны дзень пасля выпускнога. Калі ўсе святкавалі, я рыхтавалася. А раніцай пайшла здаваць, атрымала пяцёрку.

Падрыхтавалі Галіна СІНІЦА і Таццяна КАПІТОНАВА.



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 22 (1048) 29.05.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 705. Падпісана ў друк у 9.00 28.05.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.